# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (306) | ГОД VII | 23 СНЕЖНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

ВІКТАР РУДЧУК

## У МІХАЛОВЕ ЛЯСУН ГУЛЯЕ

Ён пасяліўся ў Міхалове ўжо даўно і ад першых дзён сціпла пачаў муціць ваду ды заварочваць галовы.

Найперш падбухторыў жыхароў Міхалова да пабудовы дома культуры, у якім, моў, маглі б яны выгадна і карысна праводзіць свабодны час.

Думка — сама па сабе — высакародная. Спадабалася грамадзянам мястэчка, напоўніла іх сэрцы энтузіязмам. Тым больш, што фундамент для такога будынку стаяў ужо гатовы і прызапасена таксама крыху будаўлянага матэрыялу.

Выкарыстана пры гэтым стары і зараз грунтоўна выпрабаваны метад: каб толькі распачаць! Далей — як Бог дасць! А калі не, дык партыя і другія ўстановы дапамогуць.

Распачалі. І дзіва! — здзейснілася ўсё так, як задумалі.

Жыхарам Міхалова адчыніліся дзверы грамаднага, багата абсталяванага будынку, які меў служыць заспакаенню іхніх духовых патрэб. Чаго там не было: і кіно, і більярд, і поўны камплект інструментаў для аркестра, і радыёпрыёмнік, і... Адно толькі абсталяванне каштавала каля паўмільёна злотых.

(Працяг на стар. 4)

МІКОЛА ЛОБАЧ — кіраўнік арганізацыйнага Аддзела ГП БГКТ

## З ПЛЕНУМА ГП БГКТ



**Як мы ўжо паведамлялі, 9 снежня г.г. адбылося V пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

**На здымку прэзідыум пасяджэння. Сядзяць (злева на права): прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Уладзімір Станкевіч, куратар беластоцкай школьнай акругі Часлаў Лойка, былы старшыня ГП БГКТ Лідзія Бялецкая, загадчык адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзімір Канстанчук, новы старшыня ГП БГКТ Макар Дземяновіч.**

* * *





**Апошні пленум ГП БГКТ быў прысвечаны асветным справам. Нічога тады дзіўнага, што куратар беластоцкай школьнай акругі Часлаў Лойка быў у цэнтры ўвагі (у пераносным і даслоўным значэнні). Аб гэтым і гаворыць наш здымак, дзе мы бачым куратара (у цэнтры), як у час перапынку гутарыць з актывістамі Таварыства.**

**Адным з найцікавейшых выступленняў на V пленуме ГП БГКТ было выступленне сакратара Павятовага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Гайнаўцы Мікалая Самоціка, які гаварыў аб ролі роднай мовы ў асяроддзі.**

**Здымкі рабіў Г. РАГАЗІНСКІ**

## Тэатральны фестываль нацыянальных меншасцей

Набліжаюцца элімінацыі ў рамках фестывалю аматарскіх тэатральных калектываў народных меншасцей, пражываючых у Польшчы. З'яўляецца ён часткай вялікага агульнапольскага фестывалю аматарскіх тэатральных калектываў для адзначэння 1000-годдзя Польскай Дзяржавы. Фестываль мае мэту ажывіць культурнае жыццё нацыянальных меншасцей, актывізаваць грамадства вакол мастацкіх форм працы, выявіць дасягненні і ўзровень працы аматарскіх тэатральных калектываў, павысіць агульны ўзровень тэатральных калектываў нацыянальных меншасцей.

Асноўныя прынцыпы фестывалю:

1. Састаўленне рэпертуарных планаў на асветны год 1962/63, выбар адпаведных пазіцый і пашырэнне ідэйна-выхаваўчай працы ва ўсіх тэатральных калектывах.

2. Арганізацыя прадстаўленняў «жывога» слова сярод насельніцтва навакольных вёсак, узаімнае наведванне калектываў.

3. Удзел у аглядах паасобных асяроддзяў, павятовых і ваяводскіх.

У фестывалі могуць прыняць удзел драматычныя калектывы розных тыпаў, якія апрацоўваюць п'есы шматактавыя, аднаактавыя, тэатры паэзіі, тэатры лялек, як і эстрадныя калектывы, выступаючыя з жывым словам (складанкі, мантажы і г.д.).

Падбор рэпертуару разнастайны — ад твораў класічных і сучасных. П'есы могуць ставіцца на роднай мове, або на польскай. Пры падборы рэпертуару трэба кіравацца перш за ўсё высокім ідэйным узроўнем, а таксама выканаўчымі магчымасцямі калектываў. Згодна з планам фестывалю прадбачваецца правесці ў студзені — сакавіку 1963 г. павятовыя і ваяводскія агляды. У маі 1963 — цэнтральны агляд калектываў у Варшаве.

(Працяг на стар. 4)



## Новы старшыня ГП БГКТ

Макар Дземяновіч — новы старшыня ГП БГКТ — нарадзіўся 19 студзеня 1923 г. у Мілейчыцах, Сямяціцкага павета. Там і правёў гады маладосці. У часе нямецкай акупацыі быў вывезены на прымусовую працу ва Усходнюю Прусію. Пасля вызвалення служыў у Савецкай Арміі. Вярнуўшыся ў 1946 г. на радзіму пайшоў вучыцца. Закончыў Галоўную школу сельскай гаспадаркі ў Варшаве. У якасці старшага заатэхніка працаваў спачатку ў гайнаўскім ПОМ-е, а затым у павятовай радзе. Апрача прафесіянальнай працы шмат часу прысвячаў грамадскай дзейнасці. Ад 1957 да 1961 гадоў быў пaслом ІІ-гой кадэнцыі Сейма. Выконваючы адказныя пасольскія абавязкі шмат сустракаўся са сваімі выбаршчыкамі і прычыніўся да ажыццяўлення шматлікіх пастулатаў мясцовага насельніцтва. Апошні год працаваў загадчыкам Акруговага малочнага кааператыва ў Гайнаўцы. Цяпер з'яўляецца кіраўніком саюза вытворцаў прадуктаў жывёлагадоўлі ў Беластоку.

**На здымку: новы старшыня ГП БГКТ Макар Дземяновіч (злева) у гутарцы з прадстаўніком Міністэрства ўнутраных спраў Уладзімірам Станкевічам.**

*Чытачам і сімпатыкам „Нівы" шлем сардэчныя святочныя пажаданні*

*Рэдакцыя*

# ЛОГІКА МІРНАГА СУІСНАВАННЯ

**Важнейшай палітычнай падзеяй апошняга часу трэба лічыць сесію Вярхоўнага Савета СССР, якая абмяркоўвала не толькі ўнутраныя праблемы Саюза, але і міжнароднае становішча. З дакладам выступіў М. С. Хрушчоў.**

**Чытаючы публікаваны ў газетах даклад Хрушчова адразу насоўваюцца выразныя, недвузначныя думкі.**

**Пытанне вайны і міру — гэта спрадвечная праблема чалавецтва, якая ў наш час набывае трагічнай небяспекі. Чалавек пакарыў атамную энергію, стварыў тэрмаядзерную зброю, што дае неабмежаваныя магчымасці знішчэнняў у выпадку сусветнага ваеннага канфлікту. Пасля такой вайны не засталося б на зямным шары літаральна нічога. Не было б ані пераможцаў, ані пераможаных — бо не было б людзей. Усё ператварылася б у адну вялікую пустыню. Таму ўпершыню ў гісторыі кіраўнікі дзяржаў нясуць велізарную адказнасць за лёс свету — за яго жыццё або смерць. Найменшая памылка нават у абыходжанні з тэрмаядзернай зброяй можа закончыцца поўнай катастрофай. Скажам, памылка ў стратэгічных разліках у папярэдніх войнах канчалася ў найгоршым выпадку прайгранай бітваю. Сёння памылка можа стацца пачаткам канца чалавецтва, цывілізацыі.**

Узнікшы за справай амерыканскіх агрэсараў кубінскі крызіс паставіў свет на грані іменна такога канца. Цяпер, ужо з выступлення Хрушчова, ведаем, што тады вайна сапраўды павісла на валаску. Аднак дзякуючы вытрымцы савецкага ўрада і наступіўшых пасля ўзаемных уступак уратавана мір. Абаронена сацыялістычную Кубу, абаронена палітыку мірнага суіснавання. Не спадабалася гэта заходнім мілітарыстам; не спадабалася гэта — як не дзіўна — таксама некаторым асобам, якія называюць сябе марксістамі - ленінцамі. З мілітарыстаў не дзівуем. Гаворачы пра «некаторыя асобы» маем на думцы ў першую чаргу правадыроў Албанскай партыі працы. Аб'ектыўна ацэньваючы і адных і другіх атрымоўваецца розны збег іх імкненняў да авантур і вайны. У сваёй прамове Хрушчоў выразна заявіў, што кіраўнікі Албаніі ў пэўнай меры таксама адказныя за пасеяны неспакой у свеце. Прыкрае, але праўдзівае. Мір вынікае з асноў сацыялізма. Сацыялізм узнік і развіваецца ў кірунку ліквідацыі ваенных канфліктаў. Таму сацыялізм — гэта вялікая надзея чалавецтва. Толькі тэарэтычная неразбярыха ў некаторых галовах і неперакананасць да сілы сацыялізма нараджае ў дагматычных дзеячоў нездаровыя схільнасці вырашаць непаразуменні вайною. Цвярозая развага ўказвае нам, што сацыялізм зможа перамагчы ва ўсім свеце не войнамі, а мірным суіснаваннем. Знамянальнае тое, што гэту ісціну разумеюць правадыры Саюза Камуністаў Югаславіі, ды ніяк зноў не разумеюць ці не хочуць разумець правадыры Албанскай партыі працы. Аб гэтым неабходна ўспамянуць хаця б і таму, што — як гаворыць Хрушчоў — «Суіснаваць з капіталізмам і змагацца супроць сацыялістычнай дзяржавы — гэта крайняя неразумнасць. Нашай сілай з'яўляецца ўсё тое, што нас аб'ядноўвае. А з Югаславіяй яднае нас перад усім сацыялістычнае будаўніцтва».

Выступленне Хрушчова не з'яўляецца толькі падсумаваннем пэўнага перыяду міжнародных суадносін, з'яўляецца таксама глыбокім абагульненнем асноўных прынцыпаў заграцічнай палітыкі вялікай сацыялістычнай дзяржавы.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# НОВАЯ ПЛЫНЬ
## У САВЕЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

### Хведар АСІНІЧ

**— Пакуль яшчэ няма такой вагі, на якой можна было б узважыць увесь цяжар культу, —** гаворыць у аповесці «День летящий» Вадзім Кажэўнікаў і заклікае савецкіх гісторыкаў, каб яны даследвалі, колькі каштаваў краіну культ. І Кажэўнікаў не намагаецца ў сваёй аповесці выручаць гісторыкаў. Ён зважвае толькі цяжар культу на жыццёвым шляху аднаго чалавека, радавога савецкага камуніста Сідара Цыплакова, час ад часу кідаючы па дарозе агульныя заўвагі.

Цыплакоў — просты, сумленны і ахвярны рабацяга. Такім ён застаецца і ў час вайны. Камандуе сапёрным узводам. Па дзейнічаючаму тады ўставу камандзір павінен ісці ў бой наперадзе падраздзялення. І вось, калі ён вядзе ў бой узвод, яго моцна кантузіла ўзарваўшаяся міна. Ён аглушаны, страціў дар мовы і на адно вока не бачыць. Але вышэйшыя камандзіры перабіты і салдаты звяртаюцца да яго, дакладваюць становішча і патрабуюць загадаў. А Цыплакоў нічога не адчувае, апрача шалёнай болі ў галаве. Санінструктар Люся, якая перавязвае Цыплакова ідзе на хітрасць і выдае загады нібыта ад імя камандзіра. І выйшла так, што сапёры геройскі адбілі атакі праціўніка і вынеслі з бою свайго камандзіра. Цыплакова ўзнагароджваюць ордэнам, назначаюць камандзірам батальёна. Геройства салдат не прыкмецілі. Цыплакоў бунтуецца, ён у рапарце начальству тлумачыць памылку. Ён саромяцца сваёй незаслужанай славы. Каб апраўдаць яе, Цыплакоў напрашваецца на небяспечныя заданні. Яму і пасля заканчэння вайны смерць кожны дзень заглядае ў вочы. Ён з поўнай ахвярнасцю размініраве Берлін. Калі ў гутарцы з генералам, забыўшыся спрасіць аб дазвол, нахіляецца, каб прыкурыць ад генеральскай папяросы той адхіляе сваю руку, нервы Цыплакова здаюць: ён рыдае і кусае губы.

Але вось ён дэмабілізуецца, жэніцца на Люсі і ўлучаецца ў адбудову знішчаных фабрык і гарадоў. І тут упершыню ў сэрцы Цыплакова закалоў непакой. Ён бачыць, як цяжка жывуць людзі, а Сталін аб'яўляе, што ўжо раны залечаны, што народ выйшаў з полымя вайны яшчэ ў больш прыгожай вопратцы.

Цыплакоў хоча адпачыць у тыле пасля баёў на адбудоўчым фронце. Ён пераводзіцца ў Маскву і ідзе працаваць на будову высотнага палаца, «на даху якога з часам для прыгажосці і была пастаўлена жалезабетонная копія крэмлёўскай вежы».

— Гэта не дамы, а манументы... — захапляецца Цыплакоў. — Сімвал эпохі!

Але жонка не падзяляе яго захаплення.

—Ведаеш, — кажа яна, — атрымала ліст з Беларусі: жыве народ яшчэ ў дотах, дзотах і проста ў зямлянках, якія на абарончых паласах засталіся.

Цыплакоў крыўдзіць жонку, гаворыць, што ёй ад раскошы дурныя думкі ў галаву лезуць.

**«Асоба, якая некалі пры жыцці запаміналася ва ўладарнай позе ў гэтых манументах, грозна патрабавала на схіле сваіх год, каб людзі самаахвярна служылі ідэям толькі дзеля пацвярджэння правільнасці ідэй, а не для таго, каб ідэі служылі людзям, і каб ад гэтага жыццё іх стала лепшым»** — гаворыць аб манументах Кажэўнікаў.

Але Цыплакоў гэтага не бачыць і паміж ім і жонкай паўстае востры канфлікт. Ад далейшай сямейнай драмы выбаўляе іх прыезд дэмабілізаванага Веташкіна, былога франтавога саслужыўца Цыплаковых. Цыплакоў прапануе яму працу на высотнай пабудове. Але начальнік кадраў, даведаўшыся, што Веташкін быў у акружэнні, нягледзячы на ваенныя заслугі франтавіка, не прыймае яго на працу.

Абураны несправядлівасцю, Цыплакоў ідзе да вышэйшага начальства. Там яму кажуць:

— Вы, таварыш Цыплакоў, зразумейце, ёсць агульная заканамернасць, неабвяргальная, згодна якой класавая барацьба завастраецца па меры блізкасці пабудовы сацыялізма. Увесь свет пераканаўся ў нашых поспехах, і мы абавязаны ў сілу гэтага быць да саміх сябе чуйнымі.

— Дык між кім і кім у нас цяпер класавая барацьба? — здзіўляецца Цыплакоў. — Які клас у нас з якім змагаецца?

Начальнік выняў карычневы томік, раскрыў заложаныя паперкай старонкі і сказаў:

— Вось, падкрэслена. Цяпер вы разумееце ад якой бяды я вас выратаваў? Вы сябе ў арміі ваенны ўстаў абмяркоўвалі?

— Не, як можна! Яго толькі вывучаць трэба. Гэта ж закон.

— Вось і гэта закон. Яго не абмяркоўваюць, а вывучаюць. — Тут начальнік беражна закрыў кнігу, і палажыўшы на яе далоні, пачціва аб'явіў: — Такога ні

(Працяг на стар. 5)

**ГП БГКТ выказвае спачуванне члену прэзідыума і былому старшыні Галоўнага праўлення ЛІДЗІІ БЯЛЕЦКАЙ з поваду смерці БАЦЬКІ.**

ВОРАГ, ЯКІ ПРЫХОДЗІЦЬ БЕЗ СТУКАННЯ

# ЗАБІВАЕ БЕЗ БОЛЮ

У гэтым годзе адбылася ў Веймары (ГДР) канферэнцыя прысвечаная барацьбе з туберкулёзам у сацыялістычных краінах. Яна выявіла вельмі прыкрую для нас з'яву: Польшча застаецца далёка ззаду за іншымі сацыялістычнымі краінамі як ГДР, Чэхаславакія, Венгрыя, Балгарыя, Румынія.

Чаму? Адсталасць, перад усім вёскі (наша служба здароўя яшчэ не дайшла шырокім фронтам да вёскі), дрэнныя санітарныя ўмовы.

У нас існуе абавязак прышчэпкі BCG усіх нованароджаных дзяцей. Абавязковае! Колькі маці памятаюць аб гэтым абавязку? Асабліва тыя, якія родзяць у хаце.

Існуе масавае рэнтгенаўскае баданне. Усё бясплатна. Але колькі людзей у нас праходзіць масавае баданне? Яшчэ ў гарадах лепш, але на вёсцы сярод сялян — надта мала. А іменна Германская Дэмакратычная Рэспубліка свае дасканалыя вынікі здабыла толькі дзякуючы масавым, а нават усеагульным малавобразным рэнтгенаўскім здымкам. У ГДР такія баданні праходзіць 98% усяго насельніцтва, а ў нас 18%.

Год 1962 прынёс у нас пэўныя арганізацыйныя змены ў органах кіруючых барацьбой з туберкулёзам: увесь цяжар гэтай барацьбы пераняў ад Міністэрства здароўя **Інстытут туберкулёза.** Да супрацоўніцтва Інстытут паклікаў найлепшых спецыялістаў па туберкулёзу з усяе краіны. Адным з іх з'яўляецца дацэнт др Уладзіслаў Прэнгоўскі.

Мы звярнуліся да яго за пэўнымі выясненнямі. Што даведаліся, падаем ніжэй.

Туберкулёз займае другое месца ў смяротнасці пасля хвароб сэрца. Што горшае, туберкулёз часта прымаецца людзьмі як запаленне лёгкіх ці іншая хвароба. Каб не памыляцца — трэба праходзіць рэнтгенаўскія баданні. Туберкулёз выкрыць могуць толькі прамені рэнтгена (прасвятленне).

Прызнакі туберкулёза бываюць такія самыя як многіх іншых, менш страшных хвароб, або і зусім бывае без прызнак. Да таго, гэта хвароба без боляў. Усё гэта вельмі часта ўспакойвае людзей і яны абуджаюцца запозна.

У нас штогод захворвае на туберкулёз 80—100 тысяч новых людзей. На кожныя 10 тысяч уміpae ад туберкулёзу 37. У ГДР ці Чэхаславакіі толькі 17, а напрыклад у Даніі — увогуле людзі не ўміраюць ад гэтай хваробы. Яна там цалкам зліквідавана.

Намаганні вядуцца ў тым кірунку, каб ізаляваць усіх хворых на туберкулёз ад людзей зда-

(Працяг на стар. 7)




# НА СУВЯЗІ

— Трэба пашыць пятнаццаць фуражак, — загаварыў Пецька і падаў шмат зялёнага матэрыялу.

Не ў звычаі Паўла было дабівацца — пашто, а нашто? З'явіўся ў Сашкі Башуна ў Гайнаўцы, які знайшоў тут прытулак пасля разгрому Ліпінаў. Меў ён знаёмага краўца. Праз тыдзень ужо ўдвух пайшлі на першую сувязь з партызанамі каля цэнтральнай «трыбы» ў 273 квартале. Аднеслі гатовы заказ.

Аднаго разу Ольга Аверчук намякнула: — Хочуць ізноў з табою сустрэцца...

У вызначаным месцы чакалі яго з нецярплівасцю. Распытвалі: — Дзе стаяць нямецкія гарнізоны? Хто служыць акупантам? Раздабудзь толу са снарадаў! Што чуваць на фронце? — Апошняе пытанне неяк здзівіла Гушчу... На заканчэнне дагаварыліся наконт наступнага спаткання.

На Дубіны грахнула паніка. Летнім досвіткам фашысты абкружылі вёску, зганялі людзей на пляц перад хатай мясцовага солтыса Дзмітра Койлы. Станавілі радамі. Солтыс доўга таптаўся разам з афіцэрамі і пазнаваў партызанскіх памочнікаў. Не пазнаў нікога. Фрыцы валачыліся па закутках, дзёўбалі штыхамі салому, канюшыну, сена. Да абеду выехалі.

Арышты пасыпаліся пазней, пад восень. Схапілі Міхальчука, у Казмерах арыштавалі Валодзю Лапінскага, і другіх. Да Паўлавых вушэй дакаціўся слых — ад партызан уцёк правакатар Іван Янкушык, родам з Горнага; цяпер раз'язджае ў эсэсаўскім мундзіры і ўказвае вядомых яму сувязных! Бывае на следчых канферэнцыях у гестапа.

Вырашыў не начаваць у бацькоў. Заходзіў вечарамі да Аверчукаў бы нарачоны іхняй дачкі Тасі, што працавала ў адміністрацыі чыгуначнага вузла. Ольга шапнула яшчэ страшнейшую вестку — у нямецкай засадзе загінуў камандзір Іван Івановіч!

Партызаны перайшлі ў наступленне. Лістападаўскай ноччу ў хаце ліпінскага солтыса Скепкі на хутары, Губерніяй званым, паявіўся камісар Ігар. — У імя Радзімы смерць здрадніку! Той вытрашчыў слепнякі, ляснулі пісталетныя стрэлы, мякка паваліўся на падлогу. У Шастакове ліквідавана таксама белагвардзейскага вырадка Кастарэнку.

Вырубкі ў пушчы не спыняліся і Паўлу было гэта якраз на руку. Па-першае, зручней праходзіла сувязь з Ігаравымі пасланцамі, а па-другое, на работу хадзілі праз горад, дзе ля будынка камандо чытаў рэгулярна вывешваныя франтавыя камунікаты — «моцным бальшавіцкім атрадам удалося прарваць нашу абаронную лінію»... Прахожыя чыталі вымудроныя словы. Усміхаліся, але так, каб крый Божа, хто не ўбачыў. Сённяшняя серада была незвычайным днём не толькі таму, што адбываўся торг.

— Чулі? Савецкі арапплан лётаў над ранам, лістоўкі кідаў...

Побач возчык пахіліўся да суседа:

— Пішуць, — Берлін, Варшаву бамбяць, Гітлеру пад Масквою няўстойка... Вось яно...

Саша Башун цешыўся па-свойму. Лазіць да яго паліцай — карцёжнік Верамеюк, каб папіць, лапатаць языком, шпарнуць у ачко. От і зараз прынесла гэту ненавісную морду.

— Выбачай, дарагі, — мармыча ад дзвярэй. — У нядзелю не змагу завітаць да цябе. Ведаеш, служба не дружба.

— Жаль, мы ж не паспеем разыграць партыю, — сказаў з крыўдай у голасе Башун.

— Чорт вазьмі, усё з-за той халернай аблавы!!! — не стрымаўся служака.

Сашка на сілу дачакаўся пакуль ён выйдзе. — Серада, — падумаў і супакоіўся. Павел заглянуў у пятніцу. Гаварылі нядоўга.

У панядзелак нямецкі камендант пісаў рапарт аб праведзенай аблаве:... «адкрыта пусты лагер бандытаў... аперацыю рэалізавана згодна з планам»... Гітлеравец пакасіўся на паперку, перакрэсліў слова «пусты» і дапісаў «быўшы». — Так харашэй.

Хутка прышлося перажыць невядомы дагэтуль страх турмы. Пабралі

# СКАРГІ

(Працяг са стар. 3)

вялікую. Баль слынны хвалілі суседзі, выслаўлялі багацце. — Не абы што, чатыры гектары жытніцы ўраджайнай і гумавік у пасагу! Вось!

Вясна ў працы прайшла, гаравалі дружна зранку да змяркання. Нагатаваць есці, прыбраць пасцель, накарміць курэй я клапацілася. Сынавая чарнавокая любіць парадак. Буркае, што падушкі ўложаны не так, балаган у кухні, нат' падлогі не прамыю па-людску седзячы ў хаце цэлымі днямі. Авечкам, каровам, каню пакуль падасць Сцяпан з таткам дык і Нінчына злосць пяройдзе. Маўчу вінаватая, наракаючы на век цёмны. Нядзелямі чую, чаму шэрыя кашулі, простыні, навалачкі?... Мылам іншым трэ' мыць іх, у катле бляшаным вываравць нечысць усенькую. Не пад сілы мае адрантвеўшыя валачыць ваду з калодзежа глыбокага, дошкі пакаёвыя дзерці да беласці бляску.

Нінцы не пасмакаваў крупнік, абазвала баўтнёю. На мяса тлустае скрывілася, бо нібы елкае яно. Сын адсек жонцы гарачай, каб не выдумляла чорт ведае чаго, няхай урэшце пастрыжа авец — задыхаюцца ад спёкі! Сэрца закалацілася ў трывозе, крый Божа, сварка першая ўзнімецца.

Уначы, калі спаць пакладавіліся, гугукала Сцяпану начэплівая аж чутно было за сцяноўкаю, як гэта цяжка — трудна ёй у сям'і нашай, аб палёгку ніхто не дбае; пры мацеры такой гультаяватай, мусіць, не бываць тут толку. Прысмакі праціўныя страпае, на ложках не спан'ё, а бярлогі! Гасцей не ўвядзеш, каб не пакаўзнуліся ў покутах запушчаных, ад смуроду не пападалі. Грызе яе сорам перад сваякамі абгаворлівымі. Адна не абдолее работы навалу. Змарнуе жыццё з свякрухаю непаваротлівою, не вытрымае, уцячэ каторага дня. Відаць, не перанёс Сцяпан лапатні нахабнай бо, як не выкрыкне — ідзі, калі табе так кепска! Нінка расплакалася, што не шануе яе. Бястыдніца, выгаварвала, што жаніхоў у сто разоў лепшых ад Сцёпкі мела, куды разумнейшых і прыстойнейшых... Мармыталі пад коўдраю да світання. Пры снеданні Сцяпан нявыспаны насварыўся — учарашнім малаком, маці, сама сабе забельвай зацірку. Свежага давай!

Усяго толькі магу Табе паведаміць пра Сцяпана і нявестку маю. Ой жа перамяніўся ён зусім.

**Адоль КАСТРЫЦА**



# ДЫВАНЫ Анны Аляксеюк



**Прыгожыя дываны тчэ на кроснах Анна Аляксеюк з вёскі Хане, Сямяціцкага павета. Усе яны на аснове народных узораў. На здымках вы бачыце Анну Аляксеюк за працай і яе работы дыван.**

Тэкст і фота

**Сяргей Крэйза**
**Мілейчыцы**

# НОВАЯ ПЛЫНЬ
## У САВЕЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

(Працяг са стар. 2)

ў Маркса, ні ў Леніна не было. — Параіў: — Я, напрыклад, творы таварыша Сталіна ўласнаручна ў рабочы час перапісаў — лепш даходзіць. І кожнаму рэкамендую, у каго памяць ненадзейная.

Цыплакоў прывык да таго, каб яго перакананні і жыццёвы вопыт супадалі. І вось ён адчуў, што пад ім зямля правальваецца.

«Як жа гэта так атрымліваецца? — думаў ён. — Мы разгрумілі фашызм таму, што ўвесь народ выступіў як адзін. Значыць, наш народ — адзінае цэлае. А калі б ён быў у класавых трэшчынах, дык яго б і раскалацілі фашысты пры першым удары, бы гаршчок. Значыць, трэшчын не было. А Ён указвае, што гэтыя трэшчыны ёсць, а калі іх нават няма, то паложана, каб былі.

Што ж выходзіць? Чым людзі лепш становяцца жыць пры сацыялізме, тым горш яны павінны адносіцца адзін да аднаго, — у разгубленасці думаў Цыплакоў. — Хочаш не хочаш, а трэба класава змагацца друг з другам. Крыўдна, — і, прыйшоўшы да такіх вывадаў, Цыплакоў злякаўся: — Што ж гэта выходзіць, я з таварышам Сталіным не згаджаюся?»

Будучы чалавекам свайго часу, Цыплакоў вырашыў, што за такія вывады і сумненні яго трэба выключыць з партыі і выкінуць з работы.

Будучы сумленным камуністам, ён вырашыў далажыць аб сваіх сумненнях і адначасова папрасіў растлумачыць мучыўшае яго пытанне. І ён напісаў: Масква, Крэмль, таварышу Сталіну...

І растлумачэнне прыйшло хутка, — піша Кажэўнікаў. — Яно прыйшло ў сапагах, ноччу.

Цыплакова высылаюць на Поўнач у лагер (зразумела, не піянерскі).

**Калі ў самаўзвышаючайся над усімі другімі асобы сільна выяўлены такія кіруючыя яе паступкамі пачуцці, як грубасць, падазронасць, жорсткасць** — піша пра Сталіна Кажэўнікаў, **— то нічога дзіўнага, што сваім ідэалам такая асоба выбірае не каго-небудзь з нашых выдатных сучаснікаў, а фігуру з далёкага XVI стагоддзя** (Іван Грозны — Х.А.)

Калі пасля XX з'езда Цыплакоў вярнуўся ў Маскву, яму выдалася, што выехаўшы з адной эпохі, ён прыехаў у другую. Першыя месяцы Цыплакоў адчуваў сябе ў гэтай новай эпосе вельмі дзіўна. І хоць горад нічым не змяніўся, яму выдалася, што святла на вуліцах больш, што дамы перафарбавалі на светлы колер. Цыплакову здавалася, што ў яго на спіне замест цяжкіх лапатак рухаюцца лёгкія крылы, і яму вельмі хочацца здзейсніць нешта смелае, патрэбнае людзям. Потым ён зрабіў вывад:

— Ад культа шмат людзей разучылася ўсміхацца. І цяпер я зразумеў, чаму пасвятлеў горад. Не ад лямпачак і афарбоўкі, а ад людзей ад іх твараў.

Цыплакоў нават зляказўся, каб гэтае агульнае добрае не сапсавалася ад таго, што людзі так свабодна, смела і голасна гавораць аб тым, аб чым раней нават дома не гаварылі.

Цыплакоў зноў аддаецца любімай працы. Ён будуе людзям дамы. Але захапіўшыся шчасцем, ён не бачыць, як прыспасабленец Фінікаў крыўдзіць людзей у кар'ерысцкіх мэтах здаючы датэрмінова не прыдатныя да жылля дамы. А людзі, не падазраваючы ашуканства Фінікава, запрашаюць усіх будаўнікоў на наваселле. Даведаўшыся аб подласці Фінікава, Цыплакоў не можа сабе дараваць, што ён еў іх хлеб, піў іх віно, прымаў словы ўдзячнасці, а выходзіць, ён удзельнічаў у ашуканні гэтых простасардэчных давярыўшых яму людзей. Цыплакоў быў шчаслівы, калі думаў, што ён дае шчасце шматлікім людзям, і стаў няшчасным, калі зразумеў, што ён пазбавіў гэтых людзей поўнай радасці.

**У не так далёкім мінулым схільнасць да самаўзвелічэння адной асобы і яе прагнасць усемагутнасці выяўлялася таксама ў спробах устанавіць панаванне славутых дат над самым вялікім рабочым, працоўным часам краіны,** — піша Кажэўнікаў. **— І здаралася, што вынік працы людзей ператваралі ў матэрыял для трыумфаў, прысвечаных даце, быццам шыкарны падарунак — сюрпрыз да дня нараджэння асобы.** І гэта давала магчымасць паасобным людзям зрабіць скачок да асабістых поспехаў і дастатку. Панаванне даты прыводзіла да таго, што на лентах канвеераў паспешна гналі трактары ўстарэлай канструкцыі, каб паспець да акрэсленай даты выпусціць з завадскога двара юбілейнага старэчу. А паспешна разбіраныя да даты руштаванні з недабудаваных будынкаў! А чаўканне ножніц, пераразаючых стужкі ля ўваходу ў карпусы падмеценых цэхаў, дзе стаяла ўпрыгожанае кветкамі, але яшчэ не зманціраванае, не выпрабаванае абсталяванне!

**Панаванне даты над працоўным, рабочым часам нараджала ўродаў: паказуху, ашуканства.**

Ашпарыўшыся на сваёй дабрадушнасці, Цыплакоў выпрасіў сабе пасаду начальніка дарожнага будаўніцтва на цалінных землях. Тут ён неўзабаве праслыў як выдатны арганізатар.

— Якія ж у мяне спецыяльныя метады? — сціскаў плячыма Цыплакоў. — Сачу, каб людзі былі наедзеныя, мелі дзе жыць, каб кожны разумеў, колькі за што заробіць. Вось на дошках замест лозунгаў — цэннікі. І касіру даў указанне: перад выдачай зарплаты ведамасці вывешваць. Хай усе зедаюць, колькі хто атрымаў, а гэта, па сутнасці, азначае прапаганду добрай работы. Вось і ўся мая наглядная агітацыя.

І ўсе лічылі яго чалавекам ураўнаважаным, спакойным, удумлівым.

Але калі аднойчы на нарадзе выступіў нейкі начальнік будаўніцтва і назваў лічбы сваіх дасягненняў, Цыплакоў ускочыў з месца, і, кінуўшыся праз усю залу да трыбуны, груба адсунуў выступаўшага і сказаў:

— Вы Фінікаў!

— Выбачайце, — сказаў з абурэннем начальнік, — я Фаўстаў.

— Не, — закрычаў, звяртаючыся да прэзідыума Цыплакоў, — я яго ведаю — гэта ж Фінікаў! — І з лютасцю стаў аблічаць Фаўстава ў тым, што ён мяккія грунты запісаў у справаздачы як цвёрдыя і гэтым хацеў выклікаць эфект звышпаспяховых зямельных работ.

— Ты каго ашукваеш? — крычыць Цыплакоў, а потым просіць у схода прабачэння: — Не мог і не хацеў стрымацца. Ды і ці трэба нам усім стрымлівацца, маючы справу з падобнымі асобамі?

Вось новы герой сучаснай савецкай літаратуры. Ён не бачыць шчасця чалавека без справядлівасці, не мірыцца з праявамі мінулага, вядзе бой за чалавека.

**Кончыўся культ асобы. Узнік культ чалавека,** — піша Кажэўнікаў і гэта найлепш характарызуе новую плынь у савецкай літаратуры.

**ХВЕДАР АСІНІЧ**

**УВАГА, МАСТАЦКІЯ ГУРТКІ**

## Дзе можна атрымаць рэпертуар

У рэпертуарнай пазычальні ГП БГКТ знаходзяцца наступныя аднаактавыя п'есы: Алесь Махнач «За шчасце, за волю», Валянцін Зуб «Толькі так...», Алесь Пальчэўскі «Суседка», Іда Эвальд «Мараль Наталлі Зотавай», п'еса - казка ў адной дзеі «Дзяўчынка Біз», гумарэска Грэгары «Здарэнне на кірмашы», перапрацаваная камедыя Францішка Аляхновіча «Пан міністр» і гумарэскі.

Усе матэрыялы для тэатральных гурткоў, якія знаходзяцца ў рэпертуарнай пазычальні, даступныя і лёгкія да пастаноўкі ў кожных умовах. Выступае ў іх невялікая колькасць асоб, што значна аблягчае іх пастаноўку. П'есы высылаюцца Таварыствам бясплатна. Жадаючых выкарыстаць іх, просім звяртацца па адрасу: Białystok, ul. Warszawska 11. Zarząd Główny BTS-K. **(Л)**

# ЛЯСУН ГУЛЯЕ

ладзь вельмі салідарная. Адзін за аднаго стаіць сцяной. Аднойчы арыштаваў я за бойку Ваську Іванюхіна. Калі адводзіў на пастарунак, перастуліла мне дарогу цэлая ватага яго сяброў. Вымушаны быў пусціць хулігана. Але стараемся.

Зрабілі справу Лісоўскаму, якога ў нас папулярна называюць «Віллі». Яго бацька з'яўляецца шкляром. Сын, каб падрыхтаваць бацьку працу, тры разы біў шыбы вітрыны, якая знаходзіцца ля дома культуры. За гэта атрымаў 7 месяцаў «адпачынку» і каля 2 тысяч злотых штрафу.

**ДВА БАКІ АДНОЙ СПРАВЫ**

— Так, з нашым домам культуры дзеецца дрэнна, — сцвярджае шчыра дырэктар Міхалоўскага ліцэя, Уладзіслаў Хоміч. — Але вінаваты ў гэтым не толькі мы. Зараз, пасля спалучэння Павятовага і Гарадскога аддзелаў культуры ў адзін аддзел, павет наш стаў асірацелым малодшым братам Беластока. Кіраўнікі нашага дома культуры мяняліся бы рукавічкі. Прыходзіў новы чалавек на месца пакінуўшага працу і па-праўдзе добра не ведаў, што мае ў сваёй гаспадарцы. Амаль ніколі не пераказваліся маёмасці пратакулярна прымаючаму кіраўніцтва. Асветныя ўлады, гэта праўда, не шкадавалі нам грошай на пакупку абсталявання, але з другога боку мала іх абходзіла, што дзеецца з гэтым абсталяваннем, як яно выкарыстоўваецца. Увясці трэба было б строгую фінансавую адказнасць за дабро пераказанае ў карыстанне.

Гэта адзін бок справы. Не менш важнай з'яўляецца праца ў асяроддзі з асяроддзем. Хуліганам ніхто не родзіцца. Чалавек хуліганам стаецца. Трэба знайсці тады метады ўплыву на тых людзей — так маладых, як і старэйшых. Такіх метадаў вось мы пільна шукаем. На пачатку наладзілі Універсітэт для бацькоў і восьмы клас сярэдняй школы для ўзрослых. У праграме прадбачана даволі шырока агульнакультурная і выхаваўчая тэматыка.

**У ПОШУКАХ АКТЫВУ**

Так, пачынанні такога роду могуць назаўсёды выстрашыць з Міхалова задамовіўшаеся там культурнае каўтунства.

Аддзел культуры ўрэшце знайшоў чалавека, які згадзіўся абняць кіраўніцтва над Домам культуры. Кажуць, што юнак вельмі энергічны, хаця без падрыхтоўкі да культурна - асветнай працы (закончыў нейкі тэхнікум). Важнейшае аднак тое, каб сваю працу распачаў ад намаганняў за стварэнне адпаведнага калектыву энтузіястаў культурна - мастацкай працы.

Памінаючы расхуліганеўшуюся частку моладзі, у Міхалове ёсць адпаведны грунт для стварэння такога калектыву. Там жа знаходзіцца дзве сярэднія школы, тэкстыльная фабрыка, сядзіба ГС ды шэраг другіх установ і прадпрыемстваў. Ёсць тады даволі шырокі круг інтэлігенцыі, які заўсёды спрыяльны культурнаму руху. Ёсць тады школьная моладзь асабліва старэйшая, якая ахвотна ўдзельнічае ў рознага тыпу культурных мерапрыемствах. Ёсць жа ўрэшце грошы на развіццё культурна - мастацкай дзейнасці. Міхалоўскі дом культуры штогод дастае амаль 200 тысяч злотых на сваё ўтрыманне. Нельга дапусціць, каб надалей гэтыя грошы прападалі недзе бескарысна.

«Чалавек хуліганам не родзіцца». Гэта праўда, але і хуліган перастане быць хуліганам, калі сам адчуе, што праводзіць інакш час, больш прыемна і карысна. Пакуль што яму гэта трэба даказаць на прыкладзе другіх.

Шмат чаго добрага мог бы ў Міхалове зрабіць таксама Павятовы камітэт ЗМС-у. Ён, на жаль, абмежаваўся да зарэстравання ЗМС-аўскай групы ў Міхалове. Зараз гэтая група практычна не існуе. Інструкцыі, якія прыходзяць з павета, знайсці можна ў розных кутках дома культуры. Ды не інструкцыі (гэтыя на паперы) патрэбныя міхалоўскай моладзі, а шчырая дапамога і канкрэтнае мэтанакіраванне іхняй дзейнасці.

Калектыў — вось што вырашае. Ён нават д'яблу скруне рогі.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

Возера, размешчанае ў штаце Масачусетс (ЗША), незвычайна прыгожае. Але паспрабуйце запомніць яго назву. Вось яна — Чаргагагаманчогагчобанагангамог.

Аднак гэтая назва можа здацца кароткай у параўнанні з іншай геаграфічнай назвай, якая яўна прэтэндуе на сусветны рэкорд у гэтых адносінах. У Лондане вы можаце ўзяць білет да чыгуначнай станцыі Ландвайрпулгуінгілгогерыкуірндробуланцісіліогагагок. Гэтая станцыя і аднайменны гарадок з лікам жыхароў, адваротна прапарцыянальным колькасці літар яго назвы, знаходзіцца на паўднёва - ўсходнім узбярэжжы вострава Англсі. Яго назва на валійскай мове налічвае 58 літар.

Але мясцовыя жыхары рэдка ўжываюць поўнае імя свайго горада і задавальняюцца кароткім «Ландвайр».

## Незнішчальныя школьныя дошкі

Аджываюць свой век школьныя чорныя дошкі ў Англіі. Замяняюць іх новыя. Гэта аркушы жалезнай бляхі памаляваныя спецыяльнай шкляной эмаліяй. Новыя дошкі маюць прыгожы матавы зялёны колер і, як кажуць спецыялісты, будуць незнішчальныя.

Хіба ў Англіі. Бо ў нашых вучняў няма рэчаў незнішчальных.

(мх)

## Вочы бы акуляры

Ці ведаеце вы, што ў рыб анаблепс вочы вельмі падобныя на акуляры, якія носяць старыя людзі. Трымаецца гэтая рыба ў верхнім, вельмі тонкім пласце вады, і яе вочы падзелены на дзве палавіны — верхняй часткай яна бачыць, што адбываецца ў паветры, ніжняй часткай — пад вадой.

## МОДА



**Скромны, элегантны і выгодны касцюм і блузка. Мадэль новы — прадстаўлены Берлінскім домам моды на асенняй ярмарцы ў Ліпску (ГДР).**

# ТАЙНА ДАЎГАВЕЧНАСЦІ

**120 год жыцця ў «Шчаслівай нізіне»**



**Бацька з сынам. Найстарэйшы яго сын мае 60 год, наймалодшы — 8.**

Сярод магутнага масіва Гімалаяў, уціснута між граніцы СССР, Кітая, Афганістану і Індыі, знаходзіцца нізіна званая **«Шчаслівай нізінай»** — краіна гунзаў. Не без рацыі. Сярэдняя людскога жыцця тут самая высокая ў свеце.

У «Шчаслівай нізіне» жыве 25 тыс. гунзаў. Дзіўнае племя — мужчыны якога ў сто год вандруюць па горах без змучання, а жанчыны ў 65 год родзяць яшчэ дзяцей.

120 год жыцця ў гэтай краіне не выклікае прызнакаў старасці такіх як у нас. Падставовыя функцыі арганізму не слабеюць. Зрок і слых не пагаршаюцца, рухі застаюцца звінныя і хуткія. Выбрацца па гарыстай сцежцы да суседа, які жыве за 200 кіламетраў, гэтым людзям нічога не значыць. Гунзы псіхічна зраўнаважаныя і вясёлыя. Надта працавітыя.

ДЗЕ ШУКАЦЬ КРЫНІЦЫ МАЛАДОСЦІ ГУНЗАЎ?

Прыгледзімся іх жыццю бліжэй, можа зразумеем. Чысціня ў хатах і асабістая гігіена тут такая, якую спатыкаем толькі ў высока цывілізаваных народаў. Гунзы часта купаюцца і то ў халоднай вадзе. Ядуць найбольш пладоў. Яблыкі і персікі свежыя і сушаныя ядуць цэлы год. Садамі гунзы апякуюцца асабліва сардэчна. Гародніну (морква, буракі, цыбуля, бабовыя) ядуць сырую альбо толькі крыху прывараную.

Гунзы амаль не ядуць рысу, цукру і надта рэдка ўжываюць соль. Мяса і віно спажываюць толькі ў выключных, вельмі рэдкіх выпадках. Іх любімым напіткам ёсць м а л а к о. Вельмі папулярны сыр і мёд.

Гунзы не ядуць белага хлеба. Хлеб у іх замяняюць спецыяльныя бліны з напалавіну сырога збожжа. Пра салёныя мясныя стравы гунзы кажуць «скарачаюць жыццё». Іх ежа мае ў сабе многа мінеральных солей.

Англійскі лекар Карысон, які некалькі год пражыў сярод гунзаў, пастанавіў спраўдзіць таямніцу даўгавечнасці гунзаў у лабараторыі на шчурах. (Шчуры, як вядома, ядуць тое самае, што людзі).

**Др Карысон падзяліў шчуроў на тры групы. Першая група даставала такую ежу як у гунзаў. Шчуры ніколі не хварэлі і жылі даўжэй нармальнага свайго веку.**

**Другой групе шчуроў доктар даваў ежу такую, якую спажываюць людзі ў Індыі: рыс і вараную гародніну. У гэтай групе ён запісаў 70 розных хвароб і шчуры здыхалі вельмі хутка.**

**Трэцяй групе даваў ежу як кожнаму англічаніну (мы ад англічан не розьнімся): булку, мяса, кансервы, цукар. І што? Большасць шчуроў з гэтай групы запала на вострую неўрастэнію (нервова-псіхічныя хваробы). Яны зрываліся са сну, былі неспакойныя, агрэсіўныя, частка загінула расшарпаная іншымі.**

А ў нас кажуць, што 60-гадовы мужчына ўжо стары, або што 40 лет бабін век? Перастаньце людзі абманвацца і ўгаворваць сабе хваробу.

Да вышэй сказанага аб гунзах даю прыклады:

**Цыцэрон** (рымскі філосаф, пісьменнік і палітычны дзеяч) у 80 год навучыўся грэчаскай мовы.

**Тэафраст** (старагрэчаскі філосаф і батанік) у 100 год напісаў сваю слаўную працу аб характарах.

**Гётэ** (нямецкі паэт) у 82 гады напісаў другую частку «Фауста».

**Віктар Гюго** (французскі пісьменнік) у 80 год напісаў «Тарквемаду».

**Тыцыян** (славуты італьянскі жывапісец) у 97 год стварыў лепшыя палотны).

А ўвогуле, паводле пэўнай статыстыкі вынікае, што найбольш творчы перыяд бывае ва ўзросце:

хімікі — 44 гады жыцця
вынаходцы, паэты — 46 гадоў жыцця
акцёры, кампазітары — 48 гадоў жыцця
лекары, палітыкі — 52 гады жыцця
філосафы — 54 гады жыцця
матэматыкі, сатырыкі — 56 гадоў жыцця
гісторыкі — 57 гады жыцця
працаўнікі розных адміністр. устаноў — 58 гадоў жыцця.

апр вл.



**130-гадовы дзядуля Акка з Каўказа гаворыць да курыўшых папяросы: «нашто ты ўдыхаеш гэтую атруту. На 30 год раней пямрэш»**

Сельская гаспадарка без таямніц

# ЯКІ КОНЬ?

У апошнія гады праявілася так званая «конская праблема». Жывёлагадоўцы з буйным тэмпераментам адразу заявілі: Трактар выдаў прыгавор на ўвесь конскі род. Для некаторых аматараў холеных каштанак гэта было спразай уласнага гонару. Іншыя падлічылі, падумалі і вырашылі: дармаеда на мяса. Былі і такія, якія лічылі, што трэба дзейнічаць з розумам, з развагай, абдумана.

У тым і справа. Не пераўвялічваць. Без вялікага запалу. Але што трэба, тое трэба. Коней у нас вельмі шмат. У ваяводстве маем 210 000 штук. Гэта шмат, нават вельмі шмат. І нічым не апраўдана. А трыманне коней абыходзіцца дорага.

Першынство трымаюць вёскі ў Высокамазавецкім павеце. Там на 100 га ўгоддзяў прыпадае больш як па 18 коней. У паўднёвых паветах ваяводства справа выглядае трошкі лепей: Беластоцкі — 12 штук, Бельскі — звыш 13. Сакольскі каля 13 штук на кожныя 100 га ўгоддзяў.

Там, дзе механізацыя толькі - толькі «прарэзваецца», дык можна знайсці апраўданне. Але ёсць паветы, дзе толькі ў сельгасгуртках па 50—80 камплектаў сельгасмашын. А трактар і там не выцясняе коней. Здаровы розум падказвае толькі зменшыць колькасць коней у размерах, згодных з эканамічнымі і арганізацыйнымі магчымасцямі.

Калі гурток мае некалькі трактараў з камплектамі машын, дык навошта трымаць у гаспадарцы некалькі коней? Хопіць аднаго. А на гэтым можна сэканоміць некалькі тысяч злотых.

Няхай жывёлагадоўцы не хвалююцца. Цяпер няма гаворкі аб поўнай ліквідацыі коней. Коні яшчэ патрэбны, хоць роля іх у гаспадарцы з кожным годам падае. Таму і колькасць іх будзе ўсё змяншацца. І гэта непазбежна.

Варта ведаць, што Беласточчына сваёй конегадоўляй вядома ў краіне, і нават заграніцай. Асабліва славяцца коні сакольскай пароды. Ад 1948 года закуплена ў нас 50 000 коней. У бягучым годзе ўжо выслалі каля 20 коней для Індыі.

Сакольская парода коней найбольш падыходзіць для сучаснай сельскай гаспадаркі. Коні гэтай пароды вытрымалыя, дужыя, лёгка прызвычайваюцца да новых умоў. На ярмарках у Саколцы, Янаве, Моньках ці Крыпне сакольская парода коней карыстаецца агульным зацікаўленнем. Сакольскі конь выкарыстоўваецца да самых розных прац на полі, у транспарце, да прац у невыгодных умовах (моцнае нахіленне паверхні, гарыстасць, вельмі перасечаны раён). Там праца канём больш выгадная.

Аднак трактар — гэта сучасны «конь» па пераважаючай большасці глеб. Ён перамагае жывога каня, выцясняе яго і абмяжоўвае. Такое права развіцця. Гэтага патрабуе сучасная сельская гаспадарка.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

## Кароль — „рэспубліканец”

Жан Батыст Бернадот, маршал Францыі, быў любімцам імператара Напалеона Банапарта. У 1810 годзе рыксдаг — шведскі парламент, — каб умацаваць пазіцыі Швецыі ў напалеонаўскай Еўропе, абвясціў Бернадота наследнікам шведскага трона.

Новы наследнік трона аказаўся, як кажуць, «не дурным». Прадбачачы падзенне Напалеона, Бернадот удзельнічаў у розных саюзах, накіраваных супраць Францыі, а ў 1813 годзе пасля разгрому Напалеона ў Расіі нават аб'явіў вайну сваёй радзіме. У 1818 годзе былы напалеонаўскі маршал стаў шведскім каралём пад імем Карла XIV Юхана.

У 1844 годзе Карл XIV памёр. І калі прыдворныя пачалі абмываць цела памёршага, яны літаральна аслупянелі ад здзіўлення. На грудзях караля вялікімі літарамі было вытатуіравана... «Смерць каралям!»

# Трыбуна чытачоў

## Аддзелы прапаганды

Камітэты Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў грамадах з'яўляюцца палітычнымі кіраўнікамі ў сваіх мясцовасцях. У Кузніцы і Янове на Сакольшчыне гэтыя камітэты вельмі добра працуюць. Вось таму вырашыў КП правесці эксперымент у гэтых грамадах. Нядаўна там пры грамадскіх камітэтах партыі паклікалі ны да жыцця аддзелы прапаганды. Іх галоўным заданнем з'яўляецца самастойна кіраваць партыйнай адукацыяй і весці масава палітычна - прапагандовую дзейнасць у сваёй мясцовасці. Першыя крокі ў працы гэтымі аддзеламі ўжо зроблены. Магчыма, што яны здадуць экзамен і варта будзе скарыстаць з іх і іншым КП.

(мх)

## Народны універсітэт у Завадах

Цікавую работу праводзіць сярод жыхароў ГРН Завады мясцовы народны універсітэт. Тут кожную нядзелю добрыя спецыялісты чытаюць карысныя лекцыі з такіх галін як медыцына, права, ветэрынарыя і інш. Апошнім часам вялікае зацікаўленне выклікала лекцыя аб дарожным руху.

К. Каліна

## Папрыгажэла

З кожным годам прыгажэе жыццё ў Рэпісках. Цяпер, калі ў нас праведзена электрычнасць, усе сяляне цешацца святлом. Папрыгажэлі ў нас і вечары. Вельмі прыемна, калі засвецяцца электрычныя лямпачкі на слупах.

Паднімаецца ў нас узровень асветы. Шмат нашай моладзі вучыцца ў Гайнаўцы. Сяляне цікавяцца роднай мовай, выпісваюць «Ніву». Хоць шматлікія са старэйшых не ўмеюць чытаць, але кожны селянін мае свой «Беларускі каляндар» і іх дзеці ў вольныя хвіліны ім яго чытаюць. Веды дапамагаюць сялянам нашай вёскі ў працы і жыцці. Вялікі ўплыў у гэтым напрамку аказваюць таксама фільм, радыё і кніжкі.

Міхаіл Тэлешэўскі
Рэпіскі

## Ляўкоўская пошта

Ядвіга Сякерка — загадчык Ляўкоўскай пошты, маладая яшчэ дзяўчына, сваёй чатырохмесячнай працай паспела здабыць аўтарытэт і пашану насельніцтва. Яна любіць і паважае сваю прафесію. Кожны, хто прыходзіць на пошту за якой-небудзь патрэбаю, адыходзіць ад паштовага прылаўка з выразнай задаволенасцю.

Ядвіга Сякерка шмат увагі ўдзяляе падпісцы газет і часопісаў. Газеты «Нівы» да кастрычніка было 50 экземпляраў. У лістападзе лік іх значна павялічыўся. Не малая ў гэтым заслуга і пісьманосцаў, а асабліва пісьманосца Янкі Пекарскага. Ён сумленны і працавіты чалавек. Добра, культурна і ветліва абыходзіцца ён з людзьмі. Да кожнага мае свой умелы падыход. Другі пісьманосец Кастусь Каліноўскі ўжо 5 год працуе на пошце ў Старым Ляўкове. Аддачай працай ён заваяваў давер і пашану сялян. Асабліва любяць яго школьнікі. Яны з хваляваннем чакаюць, калі Каліноўскі прывязе лісты ад «Зоркі» і новую «Ніву».

Янка Цялушэцкі
Новае Ляўкова

## Хто прагоніць мышы?

Сельгасгурток у Маскоўцах, Бельскага павета, мае млынок да асыпкі. Прывезлі яго сюды яшчэ ў мінулым годзе. Але на гэтым і кончылася яго місія. Стаіць дагэтуль бескарысна. Толькі мышы ў ім водзяцца. Калі крутанеш ім, то замест асыпкі, высыпаюцца з яго мышы. Трэба велізарнага і галоднага ката, каб усіх іх пералавіў. А мо' сельгасгурткоўцы прачнуцца і прагоняць мышы?

Сцяпан Карбоўскі
Бельск

## ДЗЯНІСКІ МАТАРЫЗУЮЦЦА

Кажуць, што такія параўнанні, як жылося калісьці, з тым, як жывецца цяпер, пераважна нікога ні ў чым не пераконваюць. А мне здаецца, што час ад часу варта параўнаць узровень сучаснага жыцця з колішнім, зрэшты, не так ужо і даўнім. Ну вось, напрыклад, вёска Дзяніскі ў Бельскім павеце.

Да вайны, на звыш 100 гаспадароў у вёсцы, такіх што мелі звычайныя веласіпеды, можна было палічыць на пальцах. Зараз жыхары Дзяніскаў маюць 40 матацыклаў. Апрача гэтага каля 60 чалавек здабыло ўжо права язды на матацыкле. Значыць, яны ў хуткім часе маюць намер купіць сабе матацыклы. Сярод іх ёсць нават 6 жанчын.

Вясковая жанчына на матацыкле перастае ўжо быць чымсьці незвычайным. А пакажыце мне такую вясковую жанчыну, якая б да вайны ганялася на матацыкле?

Дзяніскі, думаю, вёска не выключная. Гаспадаркі пераважна серадняцкія, ад 5—9 гектараў. Зямля таксама тут не надзвычайная, у большасці V і VI клас. Заробкаў з боку пры гаспадарках таксама няма. У бліжэйшы горад — Бельск, кіламетраў 15. Лесу няма. Хіба толькі на агурках (агароды маюць добрыя), калі падыдзе добры год — падзаробяць. Аднак у асноўным утрымоўваюцца з гаспадарак. А калі так, дык прагрэс у нашай вёсцы відавочны. Людзі жывуць зажытачна. Бо каму не хапае з'есці куска мяса, ці надзець добрую вопратку, дык не будзе купляць матацыкла.

(вб)

## ЗАБІВАЕ БЕЗ БОЛЮ

(Працяг са стар. 2)

ровых. Інакш кажучы, каб лячыць іх у бальніцах, санаторыях. Але тут праблема малой колькасці месц. Аднак знойдзена не малы рэзерв вольных месц у заказных бальніцах, дамах старцаў, дамах адпачынку, якія будзе можна выкарыстаць для лячэння хворых на туберкулёз. «У такіх умовах нават без будавання новых санаторый да 1965 года зможам прыняць пад апеку кожнага хворага на туберкулёз. Пасля прааналізавання гэтых спраў я з аптымізмам гляджу ў будучыню, калі гаварыць пра барацьбу з туберкулёзам» — кажа праф. Прэнгоўскі.

На заканчэнне пытанне ад імя ўсіх маці. Як у нас маецца справа з туберкулёзам у дзяцей?

Для дзяцей гэтая хвароба асабліва небяспечная, бо атакуе мозг. Паўстае запаленне мазгавой абалонкі. Раней увогуле было невылячальнае і ў 100% смяротнае. Цяпер маем новыя добрыя лекі і вылечваем, але толькі ў 70% і то не заўсёды цалкам. На 1/3 дзяцей застаюцца трывалыя сляды ў іх мазгу, на іх разумовым развіцці. Таму так важна — бацькі павінны сабе зазубрыць гэта — шчапіць дзяцей супраць туберкулёзу і ў вызначаных перыядах кантраляваць адпорнасць на заразкі. Шчапленне што нейкі час можа выгаснуць і тады трэба шчапіць нанава. У нас шчэпіцца ў сярэднім 82% нованароджаных дзяцей, але значна менш знаходзіцца пад пастаянным кантролем. Асабліва на вёсцы гэта шванкуе.

Мы хочам зліквідаваць страшную ашуканчую хваробу. Але да гэтага трэба добрай волі і свядомасці ўсіх людзей. Без гэтага лекары самі цуду не зробяць.

вл

### ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ




**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

Я жыву на вёсцы. Маю закончаную пачатковую школу, а таксама ў мінулым годзе закончыла падрыхтоўчы сельскагаспадарчы курс, які быў праведзены ў нашай вёсцы. Многа таксама чытаю кніжак, газет і часопісаў, зразумела ў вольных хвілінах, а найбольш зімою, бо тады вельмі многа вольнага часу. У нашай вёсцы ёсць святліца і ёсць многа моладзі.

Пераважна ў нядзелю, а таксама і ў іншыя святы, хлопцы ладзяць забавы. Забавы такія адбываюцца вельмі часта. Праўда, вельмі п'яных на забаве няма (часамі знойдзецца такі, але рэдка). А гэта ўжо добра. Але вось другая рэч, якая не толькі мне, але ўсім нашым дзяўчатам не падабаецца. Нашыя хлопцы танцуюць у шапках, а да таго вельмі часта і з папяросаю ў зубах. Гэта ж вельмі брыдка, а да таго бывае, што такі партнёр апячэ папяросаю, а то і выпаліць дзірку ў сукенцы ці блузцы. Скажы, Сэрцайка, як адвучыць нашых хлопцаў ад такога звычаю?

Зіна
з сяброўкамі з Дуброўскага павета

Дарагія дзяўчаты! Танец — гэта прыемнасць. І таму я ўяўляю, як гэта вы, танцуючы, замест прыемна круціцца — мусіце ўсё ўглядвацца ў папяросу, каб не сталася якая-небудзь непрыемнасць. Таму раю Вам, дзяўчаты, проста, калі збярэцеся ўсе разам (з хлопцамі), а гэта ж вельмі часта бывае, сказаць ім, што гэта вельмі некультурна з іх боку. Вытлумачце ім і заявіце, што, калі і далей будуць так пастушаць, дык будзеце адмаўляць з такім «непапраўным» хлопцам танцаваць. Для ўсяго вазьміце і прачытайце ім вось гэты нумар «Нівы». Хай ім будзе сорамна. Яшчэ дадам, што на жаль гэта частая з'ява на нашых вёсках, і таму трэба з ёю змагацца, змагацца за культуру сярод вясковай моладзі. Так, хлопцы з Дуброўшчыны, Бельшчыны, Гайнаўшчыны і т. п. пакіньце гэтую некультурную прывычку, падумайце і пра дзяўчат, гэта ж «дым на пудру шкодзіць» — як кажа прымаўка. Папраўцеся! — чаго жадае вам

СЭРЦАЙКА



## КІНО

Праграма на 24—30.XII.1962 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Mały marzyciel" (radz.), 25—27. „Z iskry rozgorzeje płomień" (radz.), 28—30.

**Кляшчэлі**
„Przeciwnicy" (węgierski), 25—27. „Rzeczywistość" (polski), 28—30.

**Навасады**
„Tajemnica starej kopalni" (angl.), 29—30.

**Нараў**
„Gorsza miłość" (węgierski), 25—30.

**Нараўка**
„Pragnienie" (rumuński), 25—30.

**Чаромуха**
„Sprawcy nieznani" (włoski), 25—27. „Katastrofa" (węgierski) 28—30.

**Чыжы**
„Telegraficzny pojedynek" (rumuński), 25—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Zmartwychwstanie" IIs (radz.), 25—30.

**Бранск**
„Tata, mama; córka i zięć" (radz.), 25—27. „Ostatni świadek" (NRF), 28—30.

**Гродзіск**
„Zmartwychwstanie" Is (radz.), 29—30.

**Орля**
„Tata, mama, córka i zięć" (radz.), 25—30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Sprawcy nieznani" (włoski), 25—27. „Noc poślubna" (polski), 28—30.

**Міхалова**
„Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 25—27. „Teresa prowadzi śledztwo" (czeski), 28—30.

**Супрасль**
„Jazz, jazz, jaz" (angl.), 25—27. „Alibi nie wystarcza" (czeski), 28—30.

**Чорна Беластоцкая**
„Weseli współlokatorzy" (radz.), 25—27. „Wakacje z Moniką" (szwedzki), 28—30.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Na tropie" (franc.), 25—27. „Człowiek z za biurka" (włoski) 28—30.

**Мілейчыцы**
„Champion" (USA), 25—27. „Jutro premiera" (polski), 28—30.

**Нурэц**
„Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 25—27. „Marynarz z Komety" (radz.), 28—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Marcin w obłokach" (jugosł.), 25—27. „Bestia" (węgierski), 28—30.

**Сухаволя**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 25—27. „Ten który wrócił" (radz.), 28—30.

**Шудзялава**
„Niewysłany list" (radz.), 25—30

**Янаў**
„Wszędzie żyją ludzie" (czeski), 25—27. „Tragiczny zamach" (jugosł.), 28—30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„100 kilometrów" (włoski), 29—30.

**Новы Двор**
„Taka miłość" (czeski), 29—30.

**Ружаны Сток**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 29—30.


Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.

Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.

Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100021

Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $, w Europie 5 $ — w USA.

Nakład 5000. Błtk F-3

 




# МУДРЫ ЗАЯЦ

Спачатку заяц бег бадзёра, ледзь не пачаў спяваць ад радасці «Чубчык кучаравы», калі раптам ад нечаканасці страціў прытомнасць.

Апрытомнеўшы, заяц прыадкрыў вочы, разгледзеўся.

Навокал па-ранейшаму срэбрыліся пры месячным бляску прыкудраныя інеем ёлкі. У лесе было ўрачыста ціха і пасмялеўшы заяц, падняўшыся на лапы, пачаў углядацца ў дзіўную знаходку.

Была гэта адгрызеная воўчая галава. Вышчараная пашча страшыла і марозіла заяччу кроў.

Відавочна, пасварыліся шэрыя разбойнікі і расправіліся па-свойму з сабратам.

Нечакана зайца азарыла геніяльная думка. Куртатахвосты перацягнуў знаходку да сваёй нары, выставіў воўчую галаву з-за куста і, адскочыўшы ўбок, палюбаваўся зробленай работай.

Вострыя агаленыя іклы наводзілі жах, а вытрашчаныя вочы дапаўнялі грозную карціну. Відавочна, воўк вельмі злякаўся, калі яму адгрызалі галаву і шалёны выгляд так і застыў у мёртвых зрэнках.

— Хе-хі-хі, — засмяяўся заяц і здаволены сваёй выдумкай, сказаў: — Цяпер не наблізіцца да мяне непажаданы госць, буду жыць спакойна, бы пры камісарыяце міліцыі.

Сапраўды жыў заяц бестурботна, ды вось звалілася бяда — прастудзіўся заяц. Хрыпіць, у касцях ломіць, пад носам адліга, голад дакучае.

Змучаны бяссонніцай, ляжыць клапавухі ў нары і бачыць, як на світанні бяжыць ліса. Футэрка ў лісы багатае і нясе яна беласнежнага пеўня.

— Ах, ты, зладзейка! — крыкнуў ахрыплым голасам заяц.

Ліса ад нечаканасці прысела. Убачыла воўчу галаву. Замерла ад страху.

— Кінь пеўня! — сказаў тым жа голасам заяц. — Калі прынясеш заячай капусты, дазволю курацінай пазабаўляцца.

Кінула пеўня ліса і ў ногі.

Спачатку радавалася ліса, што футэрка цэлае, а потым шкада ёй стала пеўня. Награбла яна капусты, прынесла да заячай нары і пакорна ўселася.

— Цёгалі б цябе сабакі за хвост, дарую гэтым разам, забірай пеўня, — дазволіў заяц.

Ліса з пеўнем знікла, а заяц хрумкае капусту і па жываце сябе гладзіць.

Так пачаў заяц жыць сыта, як млынар.

Вядома, здзіўляцца зайцу не даводзіцца. Мы самі часценька рознымі спосабамі стараемся дагадзіць начальству. А калі прыглядзецца гэтым начальнікам, то яны на ваўкоў не падобныя. Звычайныя гэта зайцы і самі аглядваюцца, каб утрымацца на хвалях жыццёвага мора.

*Дзядзька Лявон*

## ДУМКІ ЎГОЛАС

У жыцці ўсё інакш, як у тэатры. Сямейныя драмы тут ідуць без рэпетыцыі.

Не лі шмат за здароўе іншых: сваё страціш.

Калі шафёр верыць у бяссмерце, жыццё пасажыраў у небяспецы.

Нарадзіцца несумленным не сорамна. Сорамна памерці несумленным.

Ліповае не абавязкова з ліпы робяць.

Не трэба мець многа сілы, каб духі выматаць.

**Г. Янаў, В. Рабкевіч**

### ЗЛЯКАЎ

Адзін генерал царскай арміі, праходзячы каля нізенькага салдата, падумаў: «Які малы... Мабыць, баязлівы. Ану ж, праверу».

Знянацку як крыкне на вуха:

— Гаў, гаў!

А той, не разгубіўшыся, як вытне кулаком генерала па зубах.

— Пайшоў прэч, сабака!..

✲

### КЕМЛІВЫ СЫНОК

Бацька загадвае маленькаму сыну:

— Глядзі, Сцяпанка, калі прыдзе настаўнік, то адчыні яму вароты.

— А хто гэта такі, настаўнік?

— Гэта чалавек, што ўсё ведае.

— Ну, — узрушыў плячыма хлопчык, — то ён хіба ведае і як вароты адчыніць.

✲

### НЕ МОГ

Суддзя пытае абвінавачанага:

— Чаго вы ўдарылі Пятра два разы дручком?

— Бачыце, — тлумачыць той, — я ўжо не мог яго ўдарыць трэці раз, бо Пятрук уцёк.

✲

### СІЛА ПРЫВЫЧКІ

Ідзе канцэрт. Канферансье аб'яўляе чарговы нумар.

— Старынны народны танец! — і эфектна дадае: — Выконваецца ўпершыню!

✲

### ПРАДБАЧЛІВАСЦЬ

— Сапраўды не маю ўяўлення, што купіць жонцы на імяніны.

— Дык яе запытай.

— О, не, столькі не магу выдаць.

✲

### САЛІДНАЯ ПРЫЧЫНА

«Мая жонка паступіла ў хор пенсіянераў і мала ўдзяляе мне ўвагі. Прашу развесці».

(з заявы аб разводзе)

✲

### У СПАЛЬНЫМ ВАГОНЕ

Пасажыр спальнага вагона ўваходзіць у купэ кандуктара.

— Ці можаце мне даць шклянку вады?

Кандуктар здзіўляецца.

— Дык гэта ж дзесятая шклянка, якую вы атрымліваеце на працягу апошніх дваццаці мінут. Ніколі не чуў, каб нехта піў толькі вады.

— Я яе не п'ю, — адказвае пасажыр. — Маё купэ гарыць.

## КУР'ЁЗЫ

### «БЫЦЦАМ МАЛПАЧКУ З ГАНКОНГА».

**«Наша краіна (Заходняя Германія. — Рэд.) з'яўляецца буйнейшым экспарцёрам дзяцей у заходнім свеце. Дзесяткі тысяч дзяцей прадаюцца за граніцу пад выглядам усынаўлення ці ўдачарэння. Спецыяльныя пасрэднікі скупляюць дзяцей у шматдзетных бедных бацькоў або маці - адзіночак. Ілюстраваны каталог такіх дзяцей памагае багатым бяздзетным сем'ям выбраць дзіця па густу. Большая частка дзяцей ідзе ў ЗША. Сярод багатых амерыканцаў лічыцца добрым тонам прывезці з Германіі ў якасці сувеніра нямецкае дзіця, падобна таму, як з Ганконга прынята прывозіць маленькую шаўковую малпачку».**

«Міттаг».



ТУРЭЦКІ ГУМАР



— Ці не змаглі б вы перамяніць кашулю?

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Марыі Чаховіч** з Новай Гуты, Кракаўскае ваяводства, і **Надзі Барыс** з Грабянёў, Дуброўскага павета, змяшчаем папулярную савецкую песню

### ЖДИ СОЛДАТА

Слова С. Островово — Музыка А. Мокроусова

Ой, красивы над Волгой закаты...
Ты меня провожала в солдаты.
Руку жала,
Провожала.

Под густой, под заветной сосною
Ты до звезд простояла со мною
Помнить буду,
Не забуду.

Застучали по рельсам колеса.
Ты рукой мне махнула с откоса.
Ширь степная,
Даль без края.

Ты подружкой солдатской зовешься.
Значит, верю — меня ты дождешься.
Ждать ты станешь,
Не обманешь.

У солдата суровая служба,
Так нужна ему девичья дружба!
Чем нежнее,
Тем нужнее.

О подружке моей чернобровой
Знают все в нашей роте стрелковой.
Наша рота,
Эх, пехота.

Я родную страну охраняю,
Ты дождешься солдата я знаю!
Помни свято —
Жди солдата.




ВЕРНЫ ЧЫТАЧ

 